# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 12 (1558) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 23 САКАВІКА 1986 г. ЦАНА 10 зл.



З раённага агляду „Беларуская песня-86“ у Гайнаўцы. Выступае калектыў з Тыневіч. (Чытай на стар. 5).

## ПЛАН НА МЕРУ МАГЧЫМАСЦЕЙ

Я з увагай прыслухоўваўся да дыскусіі над ваяводскім гадавым гаспадарча-грамадскім планам і бюджэтам на 1986 год, якая 30 студзеня г.г. вялася ў час дзесятай, але першай у гэтым годзе звычайнай сесіі Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку. Па прапанове старшыні Прэзідыума ВРН М. Шаматовіча асноўныя мэты, заданні і напрамкі, вызначаныя ў гэтым гадавым ваяводскім плане, падаў да ведама рады намеснік беластоцкага ваяводы — Юльян Сляжынскі.

Канструкцыя кожнага плана на самую блізкую будучыню павінна, зразумела, абапірацца на выніках ранейшай гаспадарчай і грамадскай дзейнасці. У выпадку гадавога ваяводскага плана на 1986 год давялося браць пад увагу дасягненні трохгадовага плана на гады 1983-1985, які прынята называць планам адбудовы і выратавання гаспадаркі ваяводства пасля яе заняпаду ў гадах 1981 і 1982. Памятаю, што тадышнія радныя ВРН праявілі смелы аптымізм і ў выніку галасавання прынялі так званы другі, болей рызыкоўны варыянт адбудовы затрат, які патрабаваў ад насельніцтва большай ахвярнасці і працы. І гэта апраўдалася. Наглядна сведчаць аб гэтым вынікі вядучых прамысловых прадпрыемстваў. Трохгадовы план прадбачваў прырост іх прамысловасці ў межах 17 прац. Канчатковы вынік (у параўнальных цэнах) — звыш 28 прац. прыросту прададзенай прадукцыі. Ужо ў 1984 годзе наша прамысловасць перагнала ўзровень вытворчасці з найлепшага да гэтага часу 1979 года, калі мы яшчэ бестурботна, поўнымі жменямі карысталіся замежнымі пазыкамі.

У сельскай гаспадарцы малюнак менш аптымістычны. Трохгадовы план прадбачваў прырост сельскагаспадарчай вытворчасці на ўзроўні амаль 12 прац. Да гэтага ўзроўню не хапіла паўтара працэнта. Нашы сяляне не дабіліся планаваных на 1985 год вынікаў сваёй працы, ніжэйшы, чым прадбачвалася, быў ураджай асноўных збожжавых і караняплодавых культур, не дабіліся яны таксама планаванай колькасці свіней, як асноўнай базы для забеспячэння насельніцтва мяснымі прадуктамі. Між іншым і таму дзяржава не змагла ліквідаваць картачную сістэму продажу мяса. У жывёлаводстве, на шчасце, паявіліся ўжо бяспрэчныя прызнакі адбудовы

(Працяг на стар. 4)

## СЕСІЯ

1 сакавіка г.г. ГП БГКТ наладзіла папулярна-навуковую сесію, прысвечаную 30-годдзю таварыства і „Нівы“. Хоць побач адбывалася канкурэнтнае мерапрыемства (даходзілі прываблівыя гукі з цэнтральнага агляду „Беларуская песня'86“), у прасторнай канферэнцыйнай зале Дома прафсаюзаў у Беластоку сабралася нямала актывістаў і прыхільнікаў БГКТ.

Сесію адкрыў старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі, вёў яе намеснік старшыні ГП Янка Зенюк.

Выступіла сем дакладчыкаў. Першым быў Аляксандр Баршчэўскі. Тэма: беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа“. Дакладчык, перш за ўсё, звярнуў увагу на піянерскі характар нашага літаратурнага руху (адсутнасць традыцый), на яго місію. У нашай творчасці, гаварыў ён, мусіць быць не толькі беларуская мова, але і беларускае сэрца. Даказваў, што каштоўнасць нашай літаратуры заключаецца ў бытавізме. Але ён (гэты бытавізм) занадта эскізны. Наракаў дакладчык і на літаратурную крытыку, якая ў нас амаль адсутнічае, а калі і з'яўляецца, дык у панегірычным выглядзе. З увагі на той факт, што дакладчык праз многія гады быў старшынёй аб'яднання, трэба здагадвацца, — былі гэта самакрытычныя акцэнты. Яны адышлі на задні план пасля лінейнага пастраення „белавежцаў“. У ім стаялі поўнакроўныя і адметныя прыгажуны. З іх боку не чуваць было рэплік, былі задаволены сваім выглядам і месцам у шарэнзе. Тым больш, што і агульны выснаў дакладчыка гучаў аптымістычна: беларускі літаратурны рух з'яўляецца найпрыгажэйшай праявай жыцця беларускай меншасці ў Польшчы.

Другі выступіў Юрка Туронак. Ён, абапіраючыся на рашэнні і пастановы цэнтральных улад, правёў дакладны аналіз функцыянавання прынцыпу добраахвотнасці ў школьным навучанні беларускай мовы. На працягу гадоў гэты прынцып знаходзіў розных інтэрпрэтатараў. Самыя шчырыя адколвалі такія „рэверансы“, што з 9 тысяч вучняў, якія вучыліся роднай мове пры стварэнні сістэмы гэтага навучання (пачатак 50-х гадоў), маем сёння толькі 3600. Прынцып поўнай добраахвотнасці навучання беларускай мовы дакладчык назваў крыўдным для нашай меншасці.

(Працяг на стар. 3)




### АБ СТУДЭНЦКАЙ „ПРЫСУТНАСЦІ“

**Рышард Бутайла...**

*Дарагая „Ніва“! Цешуся, што твае старонкі ўзбагацелі новай старонкай „Прысутнасць“, якую рэдагуюць студэнты. Думаю, што будзе яна на добрым літаратурным узроўні, што будзе цікавай. Гэтага ім ад сэрца жадаю. Добра, што друкуецца соннік, які заўсёды цікавы і забаўляў маладых і старых. Па-моймаму, добра было б раз у месяц друкаваць агляд беларускіх радыёперадач, якія вядуцца ў Беластоку. Гэта знаёміла б з іх зместам тых, хто іх не чуў, падругое, была б магчымасць для тых, хто хоча выказацца на гэтую тэму. Думаю таксама аб энцыклапедычным цыкле, які пазнаёміў бы і мяне і ўсіх чытачоў з людзьмі са старонак нашай гісторыі. Гэта было б карысна для тых, хто даўно развітаўся са школай, хто не мае Беларускай энцыклапедыі і мець яе не будзе.*

**і Міхась Куптэль**

*Паявілася новая старонка ў „Ніве“, студэнцкая „Прысутнасць“, пад рэдакцыяй знаёмых з „Сустрэч“. Ну, дык і сустрэліся цяпер у „Ніве“ на сваёй старонцы. Вельмі добра, што „Ніва“ тэматычна пашыраецца. Вядома, было б лепш, каб існаваў другі часопіс, маладзёжны. Але чаму не можа існаваць — усе ведаем, а прынамсі здагадваемся, ад часу, калі „Ніва“ друкуе падручнік Л. і М. Гайдукоў „Зярняткі“ для трэцяга класа. „Ніва“ пабагацела, значыць, на новую старонку.*

*Праграма дзейнасці студэнтаў, з якой звяртаецца да чытачоў „Нівы“ Я. Максымюк, шырокая і гэта цешыць. Свежы погляд на розныя справы, думаю, прыцягне да „Нівы“ некалькі тысяч чытачоў, а тыраж перавысіць граніцу 5000 экземпляраў. Толькі павіншаваць галоўнага рэдактара Валкавыцкага і ўсіх, хто дапамог пры нараджэнні „Прысутнасці“, а перш за ўсё студэнтаў. Можна сказаць, што цяпер няма „Нівы“ без „Зоркі“, „Літаратурнай старонкі“ і „Прысутнасці“. Чакаць гэтых старонак будзем так, як заўсёды чакаем „Ніву“ — з нецярплівасцю.*




## АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (XXIX)

У перыяд перадвыбарчай кампаніі ў Сейм у беларускіх асяроддзях ставілася справа прысутнасці ў Сейме прадстаўнікоў Беларускага грамадска-культурнага таварыства. ПРОН, які быў падтрыманы Беларускім таварыствам, не выказаў у гэтай справе адпаведнай рашучасці, — і кандыдаты БГКТ не былі занесены ў выбарчыя спіскі. Тамсям прадстаўнікі розных улад або і простыя польскія грамадзяне гаварылі нам, што нашы прэтэнзіі неабгрунтаваны, бо ў спісках кандыдатаў у Сейм ёсць беларусы, называючы пры гэтым некалькі прозвішчаў. Частка беларусаў як бы згадзілася з гэтым.

Сярод іх апынуўся і рэдактар „Нівы", які ўзяў інтэрв'ю ад кандыдата ў паслы Яўгена Чыквіна, які сапраўды на працягу многіх гадоў знаходзіўся ў кантакце з Беларускім таварыствам, хаця нашым актывістам не быў. У інтэрв'ю пад загалоўкам „Дзеля ўзаемнага зразумення і пашаны", якое з'явілася ў 40 (1534) нумары „Нівы" ад 6 кастрычніка 1985 года Чыквін, гаворачы аб сваіх бацьках, выразна асадзіў іх, згодна з праўдай, у беларускім асяроддзі. Апошні фрагмент гэтага інтэрв'ю вельмі вымоўны і важны. Вось ён: „Пытанне: На спатканнях з выбаршчыкамі Вы падкрэсліваеце, што Беласточчына — гэта край розных веравызнанняў і нацыянальнасцей. Як Вы ў сваёй будучай дзейнасці як пасол, калі Вас выберуць, і дзеяч ХСС будзеце адносіцца да спраў і патрэбаў беларускай нацыянальнай меншасці? Адказ: Я перакананы, што кожная культура — гэта вялікая каштоўнасць для агульнапольскай культуры і страта яе была б непаўторнай стратай. Краса, прыгажосць — у разнастайнасці. Возьмем прыклад Чым былі б Бяшчады без лэмкаўскіх царковак або чым была б Беласточчына без беларускіх вёсак, драўлянага будаўніцтва, народнай песні — без усяго таго, што называем беларускай культурай? Культура краіны была б без гэтага збяднелай. Таму лічу неабходным захоўванне і развіванне традыцый беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і ў яе карысць буду заўсёды працаваць паводле маіх сіл і магчымасцей".

Добрыя гэта словы. Чыквін, як вядома, выбраны ў Сейм. Галасавалі за яго, між іншым, а можа і галоўным чынам беларусы з Беласточчыны. Сілы і магчымасці, аб якіх сказаў Чыквін у канцы інтэрв'ю, радыкальна ўзраслі з момантам уваходу яго ў найвышэйшы ўстаўадаўчы орган краіны — Сейм.

Зразумела, што мы праявілі б непатрэбную нікому нервовасць і нястрыманасць, калі б ужо цяпер запатрабавалі ад Чыквіна рэалізацыі яго перадвыбарчых абяцанняў. Сейм толькі што распачаў сваю кадэнцыю і яшчэ ёсць многа часу на рэалізацыю праграм, намераў, абяцанняў. З другога аднак боку, згодна з народнай мудрасцю, выяўленай у прыказцы — адклад не ідзе ў лад, нельга бязмежна адкладваць тое, што для беларускай нацыянальнасці найважнейшае. А такіх важных спраў вельмі многа. Сканкрэтызавалі мы іх у пастулатах, прадстаўленых у краёвай і ваяводскай радах ПРОНу.

Будзем спадзявацца, што Чыквін — пасол, сын беларускай зямлі — зацікавіцца праблемамі гэтай зямлі і будзе іх ставіць у Сейме. А наша задача не ў тым, каб перашкаджаць, а памагаць.

**Алесь Барскі**




### ДАПАМАГАЕМ ЭВМ

Пошук аптымальных шляхоў удасканалення гаспадарчага механізма вядзецца ў „Галоўпалессеводбудзе". Важны яго элемент — распрацоўка і ўкараненне аўтаматызаванай сістэмы кіравання, тэхнічнай базай якой з'яўляецца інфармацыйна-вылічальны цэнтр (ІВЦ).

Дзейнасць ІВЦ сёння сканцэнтравана на наступных напрамках — механізацыі і аўтаматызацыі першапачатковага ўліку, вырашэнні інфармацыйных задач, інжынернай падрыхтоўцы і камплектацыі, тэхнічным абслугоўванні сродкаў дыспетчарскай сувязі. Усяго на ІВЦ цяпер вырашаецца 98 комплексаў задач, якія ахопліваюць практычна ўсе бакі дзейнасці шматтысячнага калектыву палескіх меліяратараў.

Тэхнічная база ІВЦ пастаянна развіваецца і ўдасканальваецца. Нядаўна здадзена ў эксплуатацыю сучасная ЭВМ ЕС-1045. Вядзецца абсталяванне дысплейных залаў для доступу да ЭВМ усіх супрацоўнікаў апарату ўпраўлення і аб'яднання „Палессеводбудкамплект". Гэта ў сваю чаргу дазволіць больш аператыўна вырашаць пытанні камплектацыі аб'ектаў матэрыяламі і абсталяваннем.

### НА ТАННЫМ ПАЛІВЕ

Калоны грузавікоў пераведзены на газавае паліва ў розных аўтапрадпрыемствах Мінска: уступіла ў строй чарговая газанапаўняльная кампрэсарная станцыя, разлічаная на штосутачную запраўку 500 машын. З уводам яе ў эксплуатацыю завершаны важны этап газіфікацыі гарадскога транспарту. На самым танным і бясшкодным для навакольнага асяроддзя паліве цяпер у сталіцы рэспублікі ажыццяўляюцца амаль усе ўнутрыгарадскія перавозкі.

Прыродны газ, што выкарыстоўваецца як маторнае паліва, дае магчымасць інтэнсіфікаваць грузаперавозкі. Ён не толькі эканоміць бензін і змазачныя матэрыялы, але і павялічвае мотарэсурс рухавікоў, а таксама міжрамонтны прабег машын. Таму ўжо к канцу гэтага года ў розных гарадах і населеных пунктах Беларусі будзе ўведзена ў дзеянне яшчэ некалькі падобных станцый. А ў новай пяцігодцы густая сетка іх будзе размешчана па ўсёй рэспубліцы.

На дарогах паявіліся ўжо аўтапаязды здольныя без дазапраўкі пераадольваць 400 кіламетраў шляху.

### СПОРТ

Як заявіў у „Звяздзе" першы намеснік старшыні Камітэта па фізічнай культуры спорту пры Савеце Міністраў БССР Г. Гуцько, мінулагодні сезон засведчыў, што каманда „Дынама" яшчэ не стала добра адмабілізаваным і тактыка-тэхнічна падрыхтаваным калектывам, у выніку чаго многія гульні чэмпіяната і розыгрышу Кубка СССР праведзены на нізкім узроўні.

Ведаючы аб тым, што вялікая група ігракоў асноўнага саставу будзе часта прыцягвацца ў зборную краіны, трэнеры каманды не змаглі знайсці аптымальны састаў у канкрэтных гульнях і падвесці маладых футбалістаў да неабходнай спартыўнай формы.

Калегія Спорткамітэта БССР пастанавіла лічыць галоўнай задачай калектыву каманды „Дынама" (Мінск) значнае паляпшэнне выхаваўчай і вучэбна-трэніровачнай работы, павышэнне дысцыпліны і адказнасці трэнерскага саставу і ігракоў з мэтай паспяховага выступлення дынамаўцаў у розыгрышы Кубка УЕФА і заваявання ў чэмпіянаце краіны 1986 года прызавога месца.

Белсавету ФСТ „Дынама" і кіраўніцтву каманды даручана пабудаваць футбольны гарадок з неабходным абсталяваннем на спартыўнай базе „Стайкі" для больш эфектыўнага правядзення там індывідуальнай работы з футбалістамі.

Кіраўніцтву каманды прапанавана павысіць эфектыўнасць тактыка-тэхнічных практыкаванняў, каб ліквідаваць асноўны недахоп у гульні — няўменне рэзультатыўна завяршаць атакі; павялічыць аб'ём трэніровачных заняткаў, накіраваных на ўдасканаленне скорасна-сілавых якасцей і вынослівасці, для чаго лічыць абавязковым выкананне агульнага аб'ёму практычных заняткаў не менш як 750 гадзін у год.




### ПАДАТКІ НА „ПЕРШЫНГІ"

Цяпер на разглядзе кангрэса ЗША знаходзіцца праект падатковай рэформы. Калі ў мінулым годзе прэзідэнт Рэйган абвясціў аб сваім намеры ажыццявіць, пачынаючы з 1987 фінансавага года, гэту рэформу, то запэўніў, што яна зробіць існуючую сістэму падаткаабкладання больш „справядлівай". Абяцаў нават, што вось цяпер усе без выключэння грамадзяне будуць „роўныя" перад няўмольным падатковым прэсам — мільянеры, якія трымаюць у сваіх руках амаль 20 працэнтаў багацця краіны, і 50 працэнтаў сем'яў амерыканцаў, якім належыць усяго 4 працэнты. Якая ж сапраўдная цана гэтым абяцанням?

У свой час адзін з фінансавых магнатаў Амерыкі Дж. Морган цынічна заявіў: „Любы з нас мае права ўхіляцца ад падаткаў". На працягу ўсяго існавання ЗША бізнесмены розных калібраў паспяхова гэтым і займаліся. Але ніколі яшчэ манаполіі і карпарацыі так не абагачаліся і не тлусцелі, як пры цяперашняй адміністрацыі.

Як паведаміла міністэрства гандлю ЗША, у 1984 годзе насельніцтва краіны выплаціла падаткаў — федэральных, штатаў і мясцовых на агульную суму 735 мільярдаў долараў, або амаль на 10 працэнтаў больш, чым у 1983 годзе. Адначасова 50 самых буйных карпарацый не аддалі ў дзяржаўную казну ні цэнта.

Вельмі паказальны ў гэтых адносінах прыклад двух стаўпоў ваенна-прамысловага комплексу ЗША — карпарацый „Локхід" і „Груман". Яны за перыяд з 1981 па 1984 год атрымалі адпаведна 1,67 мільярда і 1,65 мільярда долараў чыстых прыбыткаў, але не выплацілі ні цэнта падаткаў. А карпарацыі „Боінг", „Джэнерал дэйнэмікс", „Джэнерал электрык" атрымалі, у дадатак да 13 мільярдаў долараў прыбыткаў, амаль паўмільярда долараў урадавых даплат. Прыбыткі 10 буйнейшых карпарацый, якія працуюць на Пентагон, растуць, паводле слоў „Нью-Йорк таймса", як на дражджах.

У верхаводаў ваенна-прамысловага комплексу няма ніякіх падстаў трывожыцца і за будучае. На наступны, 1987 фінансавы год. Белы дом плануе павялічыць ваенныя расходы яшчэ на 13 мільярдаў долараў.

А цяпер паглядзім, што „новага" і „справядлівага" абяцае амерыканцам падатковая рэформа. Калі гаварыць коратка — нічога Як і раней, зноў змяншаецца доля карпарацый у агульнай суме падаткаў, зноў яны атрымліваюць значныя фінансавыя перавагі. Упарта ажыццяўляецца лінія Белага дома, якая вуснамі яго гаспадара (паводле слоў газеты „Вашынгтон пост") вызначана так: „Карпарацыі наогул не павінны плаціць ніякіх падаткаў". Як бачым, многія з іх і не плацяць. Адначасова на 10 тысяч долараў зніжаюцца падаткі з тых багатых сем'яў, якія маюць прыбыткі звыш 200 тысяч долараў у год.

Між тым працоўныя слаі насельніцтва ЗША, уключаючы так званых „сярэдніх амерыканцаў", павінны будуць раскашэліцца яшчэ больш, каб пакрыць велізарныя расходы Пентагона. Падлічана, што з кожнага падаткаплацельшчыка ў бягучым фінансавым годзе на ваенныя патрэбы будзе спагнана больш як 2 тысячы долараў.

Не выпадкова, што такая двайная бухгалтэрыя Вашынгтона выклікае незадаволенасць сярод шырокіх колаў амерыканскай грамадскасці. Была створана арганізацыя „Грамадзяне — за справядлівую падатковую сістэму". Яна разгарнула па ўсёй краіне збор подпісаў пад петыцыяй. Яе падпісалі ўжо больш мільёна амерыканцаў. Аднак, мяркуючы па ўсім, адміністрацыя ЗША не мае намеру пайсці насустрач патрабаванням простых людзей.

**Г. Л.**



**Выступае Войцех Клімэк — старшы інспектар Цэнтральнага Камітэта Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі.**

(Працяг са стар. 1)

## СЕСІЯ

Затым на трыбуну ўзняўся Міхась Шаховіч. Меў гаварыць аб ролі „Нівы“ ў фармаванні нацыянальнай свядомасці беларусаў. Гаварыў аб усім, з перабежчыцкім запалам ганьбаваў рэдакцыю, толькі нічога талковага не сказаў на вызначаную тэму.

Даклад Міхася Хмялеўскага „Роля мастацкага самадзейнага руху ў дзейнасці БГКТ“ быў нацэлены на дасягненні 60-х гадоў, калі дзейнічала „Лявоніха“ (300 канцэртаў у год!). Лікі, лікі, як часта трапляем мы ў іх палон. Не забывайма аднак, што „Лявоніха“ была прафесіянальным калектывам. Сатрэм слязу ўспаміну над беластоцкім хорам з 56 года. Дзейнічаў ён вельмі коратка і ніхто яго не разграбіў. Магчыма, не пераканаю ідэалізатараў мінулага, але цяпер у нас лепшыя хоры (не адзін) і з куды большым стажам. На іх святло!

Уладзімір Юзвюк таксама хадзіў у асноўным па шасцідзесятых. Але да гэтых гадоў прывязвала яго тэма: „Мінулае і перспектывы беларускага музея“. Мінулае тут багатае (і апісанае), перспектывы, пакуль што, цьмяныя. Варта аднак прыслухацца да прапановы дакладчыка і пашырыць ідэю музея: не „этнаграфічны“, а „рэгіянальны“.

Ніна Амельянюк расказала аб дзейнасці і дасягненнях кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Гэтая заслужаная ўстанова ў лістападзе г.г. адзначае сваё 30-годдзе. Тады прыхаваем да гэтай нагоды і тыя цікавыя факты, якія пачулі мы ад дакладчыка.

Аб дасягненнях Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім дакладваў Аляксей Карпюк. Асабліва падкрэсліў ён ролю БГКТ як духоўнага апекуна школы і „Нівы“, як асаблівага памагатага і інспіратара.

Матэрыялы сесіі маюць быць выдадзены друкам. Пажывем — пачытаем.

**Г. Валкавыцкі**

**Фота С. Грынявіцкага**



**У зале сесіі таксама панаваў юбілейны настрой.**

## МАРЫЯ У ПОШУКАХ „ХАЛІМОНА З—ПАД ПУШЧЫ”

Клейнікі былі ахутаны белым снегам, стаялі ціхія, як бы сонныя. Пахлі спакоем і зімовым паветрам. Мы з „Зоркай“ ішлі ў школу.

Шматгадовая, вельмі заслужаная для беларускай асветы на Беласточчыне (30 гадоў працы ў адной школе!) настаўніца беларускай мовы ў клейніцкай школе Вера Краўчук адыйшла на пенсію (жыве непадалёк і па прывычцы часта за ручку з унучкай заходзіць у школу). А ў школу прыйшла новая настаўніца роднай беларускай мовы — выпускніца кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Марыя Базылюк. Аб ёй некалькі слоў не як аб настаўніцы (на гэта яшчэ рана), але як аб студэнтцы і універсітэцкім выпускніку. Марыя — тонкая, стройная істота, русалчынай пароды, з яснымі вачыма і ільнянымі валасамі, родам з хаты на хутары, што стаіць між палёў і лугоў на паўдарозе паміж Клейнікамі і Гародчынам. Закончыла беларускі ліцэй у Бельску і вучылася там добра, нават раілі ёй некаторыя, каб выбрала „больш салідны“ факультэт, але Маня (як звала яе бабуля), з поўнай свядомасцю заўпарцілася пайсці на беларускую філалогію і пайшла.

Дзяўчына цікавілася ўсім тым новым, нязведаным, на што не магла пасягацца ў сярэдняй школе, з упартасцю вывучала ў варшаўскіх навуковых бібліятэках усё, што было беларускае. У выніку яна напісала магістэрскую працу на тэму: „Публіцыстыка і літаратурная крытыка Яўгена Хлябцэвіча“.

Цяпер скажам, што даведаліся ад настаўніцы беларускай мовы ў Клейніках, Марыі Базылюк і што яна выпрацавала для сваёй наватарскай працы, напісанай пад кіраўніцтвам д-ра Аляксандра Баршчэўскага з захаваных па варшаўскіх бібліятэках (перш за ўсё Бібліятэкі Варшаўскага універсітэта — слаўнага БУВу і Нацыянальнай Бібліятэкі) гадавікоў праслаўленай беларускай газеты „Наша ніва“ і розных іншых публікацый, крыніц і апрацаванняў, многія з якіх яна і вывела на святло дня.

Пачалося ж усё ад невялічкай кніжачкі без вокладкі і загалоўка, якую вышукаў у парафіяльным архіве бацюшка Уладзімір Высоцкі. Зацікавіў ёю Марыю Базылюк, тады студэнтку беларускай кафедры. Кніжачка была выдадзена, як устанавіла М. Базылюк, бацькам Яўгена Хлябцэвіча і на яго кошт. Апісваецца ў ёй Клейніцкая парафія, гаворыцца і аб сям'і Хлябцэвічаў, актыўнай на культурна-асветнай ніве. Яўген Хлябцэвіч меў старэйшага брата — таксама нацыянальнага дзеяча.

Хто ж такі аднак Яўген Хлябцэвіч?

Быў гэта супрацоўнік (як бы мы цяпер сказалі, пастаянны карэспандэнт) „Нашай нівы“, родам з Клейнікаў, дзе яго бацька служыў бацюшкам. Яўген Хлябцэвіч падпісваўся ў газеце „Наша ніва“ псеўданімам „Халімон з-пад пушчы“ і пісаў у газету допісы-карэспандэнцыі з усяе лясістае пушчанскае паўднёва-ўсходняе цяперашняе Беласточчыны. Назавем для прыкладу некаторыя мясцовасці: Клейнікі, Трасцянка, Шчыты, Чыжы, таксама Беласток. Вось так!

Мы з вялікай радасцю і яшчэ большай надзеяй публікуем у „Ніве“ вышэй прыведзеныя факты аб Марыі Базылюк і аб Яўгену Хлябцэвічу. А чаму? А таму, што нам трэба і трэба, без канца і безупынна трэба выдабываць з забыцця нашу гісторыю, імёны несмяротных нашых продкаў, якія былі беларусамі і змагаліся за сябе, і за нас, і для нас!

„Наша ніва“ жыла людзьмі, чыталася людзьмі і рэдагавалася людзьмі, таксама тых з нашых шырокіх прастораў, з нашых вёсак (аб чым не заўсёды і не ўсе ведаем), увасабляла мары людзей і іх імкненні. Такіх прац, як у М. Базылюк нам трэба! З Беласточчыны былі і іншыя супрацоўнікі і карэспандэнты „Нашай нівы“. Ведаем, што з Сакольшчыны, Дуброўшчыны і Аўгустоўшчыны пісаў туды нейкі Грыбок. Ці што ведаем пра іншых?

Наша надзея такая, што за Марыяй Базылюк нязведаныя дзялянкі беларускага адраджэння пачнуць прачышчаць і паказваць маладыя беларускія інтэлігенты-гуманісты. Беларуская ніва чакае новых адкрыццяў, новых першапраходцаў. Трэба дакладна даследаваць і расшыфроўваць усе нумары „Нашай нівы“, раскіданыя па бібліятэках.

А нашу просьбу, як голас у будучыню, хочам накіраваць студэнтам беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта: вы, і перш за ўсіх вы, паклічце да новага жыцця ўсіх нашых продкаў-беларусаў, якія толькі целам-прахам спяць у курганах і магілах. Вы, і найперш вы, ажывіце нашу багатую гісторыю і дайце моц нашаму духу!

У 30-годдзе беларускага нацыянальнага руху Беласточчыны II палавіны XX стагоддзя, у 30-годдзе „Нівы“ кідаем гэты заклік. Прачніцеся! Адгукніцеся!

**Вера Леўчук**

Фота Яніны Чэрнякевіч



(Працяг са стар. 1)

# ПЛАН НА МЕРУ МАГЧЫМАСЦЕЙ

таго жывога колькаснага стану, які знаходзіўся ў хлявах і яшчэ тады, калі большая частка ўсялякай жывёлы аб'ядалася імпартнымі (крэдытнымі!) кармамі. І гэта абнадзейвае. Ужо ў мінулым годзе сяляне прадалі на 3 тысячы тон больш ялавічыны, чым планавалася. Занатаваны таксама значна вышэйшыя пастаўкі малака і збожжа.

Гэта ўсё складае выхадную пазіцыю да наступлення на гэты 1986 год, які будзе першым годам пяцігодкі памяркоўнага развіцця нашай гаспадаркі.

Услед за ваяводам Ю. Сляжынскім паўтару тут, што ваяводскі гадавы план гаспадарча-грамадскага развіцця Беластоцкага ваяводства ў 1986 годзе з'яўляецца планам не на меру нашых патрэб, а на меру нашых магчымасцей. Ніхто не хоча скрываць таго факту, што з 1986 годам увайшлі мы ў цяжкі перыяд нашай штодзённасці, якая патрабуе ад нас усіх, каб мы смела глядзелі праўдзе ў вочы. А гэта праўда такая, што раптоўна змяншаюцца ўсе крыніцы простага гаспадарчага прагрэсу.

Пасняховасць трохгадовага плана адбудовы і выратавання нашай гаспадаркі ад заняпаду можна было забяспечыць, утаймаваўшы анархію ў вытворчасці, наладзіўшы рацыянальную дысцыпліну працы. Цяпер гэтыя простыя рэзервы практычна ўжо на зыходзе. Спецыялісты па дэмаграфіі прадбачваюць, што яшчэ болей зменшыцца даплыў свежых рабочых кадраў у прамысловасць і ў вясковую гаспадарку. Гэта грозная з'ява, асабліва для нашых паўднёва-ўсходніх раёнаў Беласточчыны, дзе ўжо цяпер балюча адчуваецца недахоп паўнаспраўнай і перспектыўнай рабочай сілы. Заняпад (а ён поўнасцю рэальны) індывідуальнай вясковай гаспадаркі ў гэтых раёнах не астанецца без адмоўнага ўплыву на выпікі ў маштабах цэлага ваяводства. Паслядоўна маладыя спецыялісты ўцякаюць з нашых вёсак, бо фабрыкі і заводы вабяць іх перспектывай лёгкага, хаця і скромнага жыцця.

Але і прамысловыя прадпрыемствы вымушаны будуць намагчыся, каб адолець свае заданні. Перш за ўсё скончыліся ў іх так званыя простыя рэзервы, значыць, павышэнне прадукцыі ў выніку павышэння колькасці рабочых. Гэта ўжо беспаваротнае мінулае. Ратунку трэба шукаць у прысваенні і ўкараненні новай, болей сучаснай тэхнікі і тэхналогіі, пры якой усё часцей аўтаматы і робаты будуць падмяняць чалавека.

Зменшыліся энергетычныя рэсурсы. Не хапае нафты, газу, электраэнергіі, а нават і папулярнага чорнага паліва — вугалю, у чым не адзін жыхар горада і вёскі балюча пераканаўся ў час сёлетніх марозаў.

Усё гэта давялося ўлічыць пры складанні плана на 1986 год і на пяцігодку да 1990 года.

(Працяг на стар. 7)

# ВАКОЛ З'ЕЗДА КАРЭСПАНДЭНТАЎ

І зноў, як штогод, адсвяткавалі мы сваё свята — з'езд карэспандэнтаў „Нівы". Нашы сустрэчы маюць у сабе менавіта штосьці святочнае, вельмі цёплае і прыемнае. Збіраемся ўсе разам, гутарым, жартуем, абменьваемся вопытам, падводзім вынікі сваёй дзейнасці. Як у сапраўднай сям'і. Зрэшты, мы і ёсць адна карэспандэнцкая сям'я. Такія сустрэчы памятаеш доўга. Раз'язджаемся (хаця неахвотна) з новым запасам сіл і наогул з перакананнем, што наша праца патрэбная людзям, што яна мае сэнс.

На апошнім з'ездзе ўбачыў я шмат новых карэспандэнтаў. Гэта цешыць! Тым больш, што некаторыя з іх, аказваецца, супрацоўнічалі ўжо раней з „Нівай". Значыць „Ніва" прывабная, як прыгожая жанчына. Праўе не забудзеш. На жаль, многіх карэспандэнтаў я на гэты раз не ўбачыў. Не паявіўся В. Петручук — чалавек са шчырай, цёплай усмешкай і такім жа сэрцам (казалі, што паехаў на аўтарскую сустрэчу ў Варшаву), не хапала таксама дабрадушнага Э. Вайсковіча, жартоўнага М. Лук'янюка, энергічнага Б. Рудкоўскіна, станоўчага У. Сідарука, прыгожай спартсменкі Ж. Мартынюк, дзядзькі Э. Шчасновіча (бадай, пабаяўся марозу, якога, ведаю, вельмі баіцца). Не было і М. Панфілюка, які ў апошні час зусім замоўк. Што з ім дзеецца? Хацелася б іх убачыць на наступных з'ездах.

Наш апошні з'езд быў такі бурлівы, што я не паспеў узяць слова. Дык хачу цяпер выказаць некаторыя думкі.

Сказана было на з'ездзе (нібы гэта апінія жыхароў адной вёскі на Гайнаўшчыне), што „Ніва" з'яўляецца цяпер нецікавай. Я з гэтым не згодны. Думаю, што такую думку можа мець толькі той, хто нашу газету зусім не чытае, або проста нічым не цікавіцца. Праўда, выходзяць нумары менш або больш цікавыя, але ў кожным можна штосьці для сябе знайсці. Чаму людзі не выкупляюць цэлы тыраж „Нівы"? Я думаю, што перш за ўсё таму, што многія беларусы не ведаюць беларускай літаратурнай мовы. Калі б наш тыднёвік выходзіў на польскай мове (гэта, зразумела, не прапанова), яго тыраж трэба было б, напэўна, павялічыць. Чыталі б яго ахвотна і палякі. „Ніва" мае даволі высокі ўзровень — гэтага, думаю, ніхто не будзе аспрэчваць. Каб толькі не спачыла на лаўрах. Якой будзе ў бліжэйшы час — залежыць таксама ў многім ад нас, карэспандэнтаў. Я пажадаў бы „Ніве" аднаго — лепшай паперы і друку.

Адзін з карэспандэнтаў сказаў на з'ездзе, што найлепшы матэрыял для артыкулаў можна знайсці, стоячы на прыпынках ПКС, або ў краме ў чэргах. Не ведаю, мо ён жартаваў, але таго, хто хацеў бы выкарыстоўваць весткі з гэтых крыніц, хачу папярэдзіць, што яны амаль у кожным выпадку з'яўляюцца сумессю праўды, плётак і яўных недарэчнасцей. Калі пераносіць іх без праверкі на паперу — можна асмяшыцца. Часамі людзі, ведаючы, хто іх слухае, спецыяльна плятуць розныя глупствы, каб потым пасмяяцца з даверлівага. Я, як правіла, „чэргавыя сенсацыі" правяраю асабліва дакладна. І вельмі часта аказваецца, што той сенсацыі там як на лякарства, або і зусім няма.

Была таксама закранута праблема адсутнасці красвордаў у „Ніве". Я калісьці прабаваў увесці іх у тыднёвік, але нічога з гэтага не выйшла. Адзін мой красворд трапіў у „Беларускі каляндар". Поспеху ён не меў. Аказваецца, што чытачы не надта добра ведаюць літаратурную беларускую мову і маюць цяжкасці з правільным напісаннем некаторых слоў, а ў сувязі з тым і цяжкасці з рашэннем нават даволі простых красвордаў. Каб дайшло да таго, што ўсё ж „Ніва" пачала б змяшчаць красворды, яны павінны былі б быць састаўлены з вельмі простых слоў. Але ці такія адгаданкі даюць камусьці карысць?

І яшчэ адна справа. На нашых з'ездах мы павінны больш увагі прысвячаць самой „Ніве". Тэмы, якія не датычаць непасрэдна нашага тыднёвіка, павінны знайсці адлюстраванне ў нашых карэспандэнцыях. Мы і так не вырашым за тры ці чатыры гадзіны ўсіх спраў, якія ў нас назбіраліся за цэлы год.

**Пётр Байко**




## ЗАЙЗДРАСЦЬ — БРЫДКАЯ РЫСА...

*...Але што зрабіць, калі чытаю рэпартаж Веры Леўчук „Тыневічанкі на вялікай дарозе" („Ніва ад 12.I.1986 года) аб хрысцінах тыневіцкага калектыву і зайздросны я, што гэтыя хрысціны не адбываліся ў Махнатым, што не быў хрышчаны харавы, ці танцавальны, ці нейкі іншы мастацкі калектыў з Махнатага!*

*Пісаў я аб Махнатым некалькі разоў і, пэўна, буду пісаць яшчэ не раз. Пісаў, што Махнатае не хіліцца да заняпаду, як, не вытыкаючы пальцам, Мастаўляны, аб чым піша В. Рудчык у той жа „Ніве". У Махнатым моладзі многа. Моладзі таленавітай, прыгожай, вясёлай і адукаванай.*

*Калядныя песні на апошнія Каляды спявалі ўмела і прыемна было іх слухаць. Адным словам, ёсць база для стварэння калектыву ў Махнатым. Ёсць моладзь, пэўна, далучыліся б і старэйшыя, ёсць беларускія песні, ёсць клуб, месца, дзе можна спяваць. Пэўна, ахвота таксама ёсць, а не хапае проста арганізатара, які павёў бы звычайную культурную работу. Прыглядзьцеся затым адзін да другога, маладыя людзі з Махнатага, — такога арганізатара напэўна знойдзеце.*

*А, можа, махнацкія настаўнікі памаглі б стварыць беларускі калектыў у Махнатым? І то не таму гэты калектыў трэба стварыць, каб былы махнач не зайздросціў тыневічанам, а проста трэба б стварыць яго для сябе і для іншых жыхароў Махнатага. Махнатае калісьці мела маладзёжныя калектывы. Думаю, што культурную традыцыю трэба аднавіць. Вы са мной згодны?*

**М. Куптэль**
**з Махнатага**



Спявае калектыў з Нараўкі.

# ДОМ НА ВЕЙСКАЙ

Я памаленьку ўвайшла на чацверты паверх дома на вуліцы Вейскай. Я ішла апошні раз, не спяшаючы. За дзвярыма „адкрытага дома" Андрэя гудзела як у вулеі. Я прытрымала свой святочны падарунак, пазваніла. Адкрыў брат Андрэя, вясёленькі Марэк. За ім таўпіліся дзяўчаты з бліскучымі ад поту намаляванымі тварамі, далей, у клубах дыму, падрыгвалі ў танцы пары.

— Дарагі Андрэйка! У дзень тваіх трыццаць другіх нарадзін жадаю табе многа шчасця!

Сярод гасцей я пазнала некалькі чалавек, якіх сустракала час ад часу, заглянуўшы сюды. Амаль паўгода заходзіла я сюды. Я была таксама ангеламхраніцелем Ірыны, якой я апекавалася разам з Віктарам. Ірка пасля заканчэння універсітэта „зачапілася" ў школе ў далёкім ваяводстве, пасля вярнулася ў Беласток. Аказалася, што сябры раз'ехаліся, хто-куды, працаваць. У кожнага свае справы. Ірка з чамаданчыкам паявілася адной летняй раніцай у маёй „нары". Пакуль што я была адзінай „ніткай", якая звязвала яе з нашым горадам. Пасля мы сустрэлі Віктара. Гады тры назад Віця кахаў Ірку. Ірынка — знакамітасць тады ў студэнцкім свеце — не звяртала на яго ўвагі. Сябра ўсіх людзей добрай волі ў Беластоку і акругі Эдзік, пазнаёміў нас з Андрэем, дзе Ірка зноў спаткала Віктара.

„Адкрыты дом" Андрэя я ўспамінаю як нейкі дзіўны сон. Я баялася, каб Ірыну, якая сваёй прысутнасцю сцягвала ўсе „громы", дзе толькі не паявілася — не спаткала штосьці, што магло б ёй пашкодзіць. Віктар выдаваўся мне іншым, чым уся гэтая „кампанія", але чаму ён тут? Віктар наймаў пакой у доме Андрэя, і ўва ўсім, што мела тут месца, ён, хацеўшы не хацеўшы мусіў прымаць удзел. Калі Ірка і Віктар пасля ўсяго пераехалі жыць у Бельск, пажаніліся, я з палёгкай уздыхнула. Ды мне яшчэ сніцца, што ў глыбокую ноч табун п'яных „хлапцоў" ідзе да мяне „ў госці", равучы на ўсе Баяры, а іх паненачкі, „знятыя" дзесь „Пад семафорам", хочуць са мной знаёміцца — цалуюць мяне шчыра „ў шчочку" смярдзючымі блевакамі, кіслым віном і махоркай маляванымі губамі...

Я спачатку думала, што Андрэй — гэта нешчаслівы чалавек, якога кінула жонка, які не выказаўся ў сваёй прафесіі, чалавек з вельмі складанай натурай... Здавалася, ён не пануе ўжо над сваім домам, які стаў месцам зборышч яго сяброў і сябровак. Тут можна было і добра выпіць (у суседнім блоку на Бэма дзень і ноч дзяжурыла алкагольная „бабка"), і дзеўку свежанькую памацаць. Андрэй не мусіў шукаць „эмоцый". Паненак, гарэлку прывозілі яму сябры. Зусім выпадкова трапіла сюды Зося, мілая і спакойная дзяўчына. Пасля паддалася гэтай атмасферы. Тады, калі любімы пачаў абражаць яе проста ў вочы, яна, пратэстуючы, шчыра занялася... другімі.

Падзел дзяўчат: сяброўкі і „мяса". Сяброўкі — іх толькі некалькі — гэта „кумплі", з якімі можна гаварыць аб усім і ўсё, і выпіць, як са сваімі — роўна. Сяброўчын абавязак — як усіх сяброў з „кампаніі" — дастаўляць „мяса", піць роўна і вясёла і быць інтэлігентнай, хаця настолькі, каб не адстаць занадта ад культуры Андрэя, чалавека з вышэйшай адукацыяй.

А адну паненку захапіў дом на Вейскай. Яго халадзільнік, тэлевізар, сціральная машына... Праз нядзельку пасля салодкай ночы з Андрэем прынесла паперкі з лабараторыі медыцынскай акадэміі, што зацяжарыла. Як ёй цяпер жывецца, не ведаю. Гавораць у кругах, збліжаных да Эдзіка, што дом на Вейскай наглуха забіў свае дзверы для сяброў. Андрэй там таксама рэдка бывае. У апошні час, гавораць, канваяваў новы транспарт коней да чэшскай граніцы.

**Міра Лукша**



Спявае калектыў з Дабрывады.

# БАГАТЫ АГЛЯД У ГАЙНАЎЦЫ

Раённы агляд „Беларускай песні-86" у Гайнаўцы прайшоў у нядзелю 16 лютага б.г. У Гайнаўскі дом культуры „Гурнік" прыехала амаль сто спевакоў з розных мясцовасцей раёна. У зале сабралася амаль паўтысячы слухачоў. Сведчыць гэта аб замілаванні людзей да роднай песні. Агляд у Гайнаўцы меў высокі мастацкі ўзровень і быў дасканала падрыхтаваны і праведзены Гайнаўскім домам культуры, дырэктарам якога з'яўляецца Мікалай Бушко (член Прэзідыума ГП БГКТ), а музычным інструктарам — мгр Аляксандр Лукашук.

Камісія раённага агляду ацаніла выступленні спевакоў у трох катэгорыях: аўтэнтычнага фальклору, апрацаванага фальклору і сучаснай беларускай песні. У наступную нядзелю ў рамках конкурсу „Савецкая песня" выступілі яшчэ некаторыя ўдзельнікі ў катэгорыі сучаснай беларускай песні.

У катэгорыі аўтэнтычнага фальклору два I раўназначныя месцы былі прызнаны дуэтам з Трасцянкі: Анна Стахвіюк і Анна Максімчук, ды з Тыневіч Ніна Савіцкая і Валянціна Леўчук. Другое месца занялі жаночыя трыо з Дашоў і з Тыневіч а трэцяе месца — мамады калектыў з Нараўкі. Вылучаны яшчэ быў жаночы калектыў з Дабрывады. Сярод салістаў у гэтай катэгорыі прызнана другое месца Анне Стахвіюк з Трасцянкі, трэцяе — Рышарду Казберуку з Семяноўкі і вылучана была салістка Мар'я Кандратюк з Чаромхі.

У катэгорыі апрацаванай фальклорнай песні першае месца заняло жаночае трыо са Старога Ляўкова, а другое — вакальна-інструментальны калектыў з Дубін. Вылучана была салістка Анна Аліфер са Старога Ляўкова.

Найлепш у сучаснай песні паказалі сябе вучні Гайнаўскага ліцэя: Аляксандр Петручук — II месца і Уршуля Іванюк — III месца. Вылучаны былі: жаночы дуэт са Старога Корніна, вакальныя групы са Старога Ляўкова і „Дружба" са Старога Корніна.

Багатым быў раённы агляд „Беларускай песні" ў Гайнаўцы. Адбываўся ён у тыя дні, калі Беларускае таварыства святкуе 30-годдзе дзейнасці. Спевакі заслугоўваюць пахвалы. Жадаем ім далейшых поспехаў і задавальнення ў мастацкай самадзейнасці.

**Ян Мордань**

**Фота Я. Герасімюка**



Выступленні ўзрушалі гледачоў.

# ПАПРАЎКА

Справаздача В. Буры з „Пленарнага пасяджэння Гайнаўскага аддзела БГКТ" была надрукавана са змененым словам. Гэта па маёй віне: мне проста няясным здалося — хто ж вінаваты, што так важная і патрэбная імпрэза магла не адбыцца. Аўтар напісаў: „Даў прыклад абыякавых адносін да „атрасін" беларускіх студэнтаў, якія не адбыліся ў Беларускім клубе БГКТ на вул. Варшаўскай 11 у Беластоку ў 1985 г."

**Вера Леўчук**

# ГІСТАРЫЧНЫ І СУЧАСНЫ ГАНДАЛЬ У ОРЛІ

17 кастрычніка 1622 года ўласнік Арлянскай воласці Крыстафор Радзівіл выдаў у Вільні дакумент, па якому мяшчане горада Орлі атрымалі права выбіраць са свайго асяроддзя войта і судзебных лаўнікаў. У тым жа дакуменце зацвярджаліся тыднёвыя кірмашы, якія адбываліся ў серады, і гадавы кірмаш на 3 верасня.

Гандлем займаліся яўрэі. Вялі яны гандаль не толькі на тэрыторыі воласці, але сваімі таварамі сягалі далёка, нават і за рубяжы дзяржавы. Асабліва гандлявалі (экспартавалі і імпартавалі тавары) з Гданьскам і Крулеўцам. У 1766 годзе 15 арлянскіх купцоў вывезлі з Орлі тавару на 2925 злотых, а прывезлі ў Орлю на 3871 злотых. Горад Бельск наракаў на Орлю, што яна — надта вялікая канкурэнцыя.

У 1772 годзе Орля мела 19 крамаў. У тым жа годзе 12 арлянскіх купцоў, праводзячы зарубежны гандаль, былі ў тамажнях Кольна, Асоўца, Шчучына і Візны. У пачатку XVIII стагоддзя Орля стала маленькай мясцовасцю з 486 жыхарамі.

Спісак жыхароў з 1880 года паказвае на ўжо больш развіты гарадок — 2351 жыхар і ўжо зноў славілася яна як гандлёвы горад. Да II сусветнай вайны лічылася Орля таксама горадам гандлёвым. У міжваенны перыяд у Орлі было 8 тэкстыльных крамаў, сярод якіх дзве даволі вялікія на той час. У тых крамах прадавалася многа сукна, баваўняных, шаўковых і ўсякіх іншых тканін. Прадаўшчыкі часта пыталіся ідучых вуліцай людзей, ці чаго не хочуць купіць. А калі хто адказваў, што трэба было б, але не мае грошай, яны прапанавалі ўзяць на обар (крэдыт). І куплялі на обар. Спажывецкіх крамак было аж 12. Найбольш іх стаяла на пляцы, дзе цяпер парк. Тавару ў тых крамах не бракавала. Невялікіх пякарняў мела Орля аж пяць, тут жа адразу і прадавалі. Жалезныя прылады, цвікі, косы, сярпы і іншыя рэчы хатняга гаспадарства мясціліся ў трох крамах. Валавіна і таннае мяса прадавалася ў асобных крамах. Продажам каўбас і іншых вырабаў са свініны займаўся Алесь Цвяцінскі — на Орлю і 36 вёсак гміны гэта быў адзіны мяснік. Раз у тыдзень забіваў ён купленага вепрука, з жонкай і дзвюма дочкамі рабіў вырабы, асабліва каўбасы. Цвяцінскія былі задаволеныя, калі за тыдзень прадаваліся каўбасы і іншыя вырабы. Манапольку мела Мар'я Бажымава.

На гарэлку не было многа ахвотнікаў і не з'яўлялася яна ў тыя часы заразай, як сёння. Сёняшні будынак бару „Універсальны" — гэта будынак былога рэстарана Бэркі. Апрача рэстарана Орля мела дзве кавярні, у якія найбольш заходзіла моладзь.

Вайна змяніла вобраз гандлю. Гандаль цяпер вядзе ГС „Самапомач хлопска". Тое, што ГС зрабіў — не мала. Пабудаваў у Орлі тры вялікія крамы, дабудавалі і перабудавалі даўнейшую пякарню на спажывецкую краму, даўнейшы рэстаран — на бар „Універсальны" і аж сем крамаў пабудавалі ў вёсках Арлянскай гміны. Пабудавалі даволі вялікую мясную, пякарню і бюро, магазін на збожжа і на кармы і тры склады на цэмент, угнаенні.

Да ГСу не толькі належаць крамы, але і прадукцыя мяса, пякарня, паслугова-рамесна-будаўнічае малое прадпрыемства і млын. Працуе ў ГСе аж 105 чалавек.

ГС займаецца і скупкай жывёлы і збожжа. Крама хатняга гаспадарства даволі вялікая і сучасная. За месяц прадаецца ў ёй тавару на амаль пяць мільёнаў злотых. Таксама вялікая крама тэкстыльна-абутковая, за месяц продаж дасягае трох мільёнаў злотых. У спажывецка-мясной краме за месяц прадаецца тавараў на тры мільёны. Але ў спажывецкай краме, у якой прадаецца хлеб, булкі, піва, селядцы, рыба і іншае, месячны ўторг даходзіць толькі да паўтара мільёна.

Зараз у тэкстыльнай краме заняты ўсе полкі. Заняты полкі і ў іншых крамах, але ёсць тавары, на якіх няма пакупнікоў.

Працаваць прадаўшчыкі ў Орлі ўмеюць і некаторыя з іх сапраўдныя прафесіяналы.

У разуменні сялян гміны і далейшых вёсак Орля — гэта горад, і таму пакупнікоў бывае многа. Добра было б, каб ВЗГС Орлю лічыў не за вёску — гарадскі пасёлак, а за горад і планаваў пастаўку тавару, як у гарадах. І гістарычная і сучасная Орля — гандлёвы цэнтр.

**М. Ляшчынскі**

### ЦЯПЛЕЙ У ШКОЛЕ

Пасля зімовых канікулаў цяплей будзе ў школе ў Нараўцы. У лютым гэтага года будаўнічая фірма падключыла цэнтральнае ацяпленне да школьных будынкаў. Некалькі гадоў пры школе ў Нараўцы будавалася кацельная. Тут працавалі грамадскім чынам і настаўнікі, і вучні, ды не без удзелу бацькоўскага камітэта. Вялікая тут заслуга і гміннага інспектара школ Яўгена Валкавыцкага і дырэктара школы Яна Савіцкага, якія найбольш клапаціліся аб гэтай каштоўнай і важнай для школы будове.

**М. В.**

# КЛОПАТ З БУЛКАМІ

У школе ў Барысаўцы адкрылі мы школьную крамку, якую назвалі „Мая". Ад настаўнікаў я згадзіўся быць яе апекуном. Пачынаць было цяжка, ды і потым нялёгка.

Наша крамка прадае школьнікам булачкі на другое снеданне — і тут пачаліся клопаты. Спачатку булкі мы куплялі ў мясцовай краме, куды іх прывозяць з гайнаўскага ГСу. Потым нейкі час булкі нам прывозілі з пякарні з Нараўкі адразу ў школу. Усе былі вельмі задаволены. Але яшчэ пазней пачалі вазіць булкі з гайнаўскай пякарні, спачатку таксама непасрэдна ў школу. Ды вось раптам перасталі вазіць у школу, а завозілі ў мясцовую краму, трэба было туды бегаць і купляць. Гэта вельмі нас здзіўляе, тым больш, што самаход, які возіць булкі, праязджае каля самай школы.

Я звярнуўся ў гэтай справе з просьбай да прэзаса ГС, Мікалая Тэлянцеюка. Ён аднак адказаў, што ім не аплачваецца вазіць булкі ў школу і даваць 15-працэнтную правізію, бо тады ГСу нават на зарплату працаўнікам не хопіць. Калі ж мы будзем тыя булкі браць з крамы, тады атрымаем правізіі толькі 5 прац.

Прыйшоў час разлічыцца за булкі. Касірша сказала, што трэба нам плаціць у сваёй краме ў Барысаўцы і што мы павінны звярнуць ГСу 10 прац. правізіі. Мы плаціць хацелі столькі, колькі было напісана на рахунках, а там стаяла 15 прац. Што ж нам рабіць? Ці ж прэзас ГС у Гайнаўцы вырашыў павысіць свой даход, абрэзваючы правізію, вырываючы напісанае на рахунку? Няхай жа прэзас як агульны апякун над харчаваннем моладзі прадумае гэтую справу. Мы чакаем, што ён дазволіць хоць зімою прывозіць гэтыя булкі ў школу непасрэдна. І дасць 15 прац. правізіі.

**Андрэй Ялоза**

(Працяг са стар. 4)

# ПЛАН НА МЕРУ МАГЧЫМАСЦЕЙ

Найбольш красамоўна аб дзейнасці чалавека сведчыць тое, што ён збудаваў. На інвестыцыйныя патрэбы ў 1986 годзе Беласточчына збіраецца выдаць 6 мільярдаў 820 мільёнаў злотых. На жаль, на новыя капіталаўкладанні Беластоцкае ваяводства магло прызначыць толькі 24 працэнты сваіх грашовых сродкаў. Усё іншае, значыць, аж 76 прац. капіталу паглынуць аб'екты, распачатыя ў папярэдніх гадах.

На вясковую гаспадарку і спажывецкую прамысловасць адводзіцца 39,3 прац. усіх капіталаўкладанняў. Падаю гэты, такі дакладны лік, каб маглі мы ўявіць, як цяжка даводзілася размеркаваць гэтыя даволі скромныя грашовыя сродкі, хаця гэта амаль 7 мільярдаў злотых.

Пленум Ваяводскага камітэта ПАРП 26 верасня 1985 года прыняў пастанову, што на патрэбы вясковай гаспадаркі неабходна кожны год адводзіць не менш 40 прац. усіх капіталаўкладанняў, якія асталіся ў распараджэнні ваяводскай улады. А тут — 39,3 прац. Аказваецца, што не хапіла грошай, каб рэалізаваць пастанову партыйнага пленума. Проста неабходна было пэўную суму залатовак адвесці на забеспячэнне горада Беластока цяплом і электраэнергіяй, адным словам, на разбудову беластоцкай цеплаэлектрацэнтралі, без якой не можа развівацца жыллёвае будаўніцтва ў сталіцы ваяводства.

І таму радны Аляксей Зін (з Гайнаўкі) прапанаваў, каб гэты недахоп на патрэбы сельскай гаспадаркі папоўніць з бюджэтнай надвышкі за мінулы год.

Так і пастаноўлена. План на 1986 год радныя прынялі аднагалосна. Не абяцае ён нам ружовых, заманлівых перспектыў, але вызначае рэальны шлях памяркоўнага прагрэсу. А як ён будзе ажыццяўляцца — гэта ўжо залежыць ад добрасумленнай працы кожнага з нас.

**Віктар Рудчык**

часу чакаў, каб сваіх вызваліцеляў прывітаць!

І ён шырока адчыніў вароты сваёй клуні.

— Здесь ли Прокопчук Михаил Лукъянович?! — бадзёра запытаў афіцэр. Селянін, хаця і басаног, і з голай галавою, і ў адной зрэбнай кашулі, падцягнуўся на смірна і адразу таксама па-руску:

— Так точно, товарищ полковник, я здесь!

— Пойдзеш з намі, патрэбны нам вопытны праваднік! — загадаў афіцэр. Міхась Пракапчук не пратэставаў, не прасіўся, каб яго адпусцілі, не пацікавіўся нават, адкуль гэты незнаёмы савецкі афіцэр ведае дакладна яго прозвішча.

— Так точна! — падцягнуўся ён ізноў. Афіцэр глянуў на яго босыя ногі і зрэбную кашулю:

— Дык добра, хутчэй апраніся і абуйся!

— А навошта, цяпер жа лета — летам селяніну ўсюды цёпла і ўтульна. А без ботаў лягчэй мне будзе.

Не было Міхася два дні і дзве ночы. Параска ўжо вочы выплакала і надзею патраціла на яго вяртанне. Навокал усё грымела і гарэла ад узрываў. Дзякуй Богу, што іх вёска знаходзіцца далекавата ад праязных дарог. Уся смерцяносная навала пракацілася крыху збоку, а сяло асталося цэлым.

На трэці дзень Міхась Пракапчук вярнуўся дамоў з тым жа афіцэрам, які за ім прыходзіў.

— Вось табе, маманя, твой Міхаіл Лук'янавіч! — смяючыся, гаварыў палкоўнік.

Сапраўды, трудна цяпер было яго пазнаць. У хромавых ботах, у новенькай салдацкай кашулі, у фуражцы-пілотцы, з-пад якой фанабэрыста тырчэў чорны чуб.

— А я памятаю, — уключылася ў расказ дачка Насця, — што тата прынеслі тады нам многа смачных цукерак і шакаладу. Першы раз у жыцці ўдосталь нaеліся мы гэтых ласункаў.

— А яшчэ, — працягвала свой успамін маці, — калі тыя салдаты адыходзілі ад нас, дык гэты афіцэр сказаў мне так:

— Маманька, запамятай сабе: твой муж, Міхаіл Лук'янавіч, выратаваў нас ад яўнай гібелі. І мы аб гэтым не забудзем. Калі вернемся з Берліна, дык расстараемся для вас спецыяльную ўзнагароду!

Цётка Параска хвіліну паглядзела моўчкі ў акно, за якім зялёны панадворак пераходзіў у загоны пустога поля, а ўсё гэта канчалася на гарызонце сцяною цёмнага лесу. Яна ціха ўздыхнула.

— Відаць, не вярнуліся яны, саколікі, з гэтага Берліна, бо ніхто з нас не чуў аб нейкай узнагародзе...

— То ж колькі іх загінула яшчэ па дарозе да гэтага Берліна! — адазвалася дачка, а я хуценька ўдакладніў:

— У баях за вызваленне Польшчы загінула звыш 600 тысяч савецкіх салдат!

У Пракапчуковай хаце ў вёсцы Паграбы зноў стала ціха. Цётка Параска штосьці перабірала бяззубым ротам, яе дачка сядзела на нізкім зэдліку ля печкі, сумна павесіўшы галаву. „Як на хаўтурах", — падумаў я. І, каб спыніць гэты сумны настрой, запытаў я яе, як жылося ім пасля вайны.

— Лепш не гаварыць, не ўспамінаць! — пачала дачка Насця. — Асталіся мы голыя і босыя, ды ледзь ад смерці выратаваліся... Банды, каб ім Бог не даў спакою і на тым свеце!

Яна падняла фартух, каб выцерці наплыўшыя слёзы.

— Але найперш, — адазвалася маці, цётка Параска, — найперш прапанавалі, каб мы перасяліліся ў Савецкі Саюз. Рускія прапанавалі. У Кляшчэлях, пры гміне, быў тут такі ўпаўнаважаны, значыць, савецкі афіцэр, дык ён часценька заязджаў і ў нашу вёску, каб агітаваць людзей на пераезд у Савецкі Саюз. А ў нас была яшчэ хата старэнькая, бацькоўская. Абяцаў нам, што ў Беларусі палякі, пераязджаючы ў Польшчу, пакі-

(Працяг на стар. 8)

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АЎКЦЫЁН У ЧЭНСТАХОВЕ

У днях 10-11 красавіка г.г. у Чэнстахове ў зале Бюро мастацкіх выставак (Алея НМП, № 64) адбудзецца першы ў гэтым горадзе кніжны аўкцыён. Ніжэй называем загалоўкі тых кніг, якія, думаем, могуць зацікавіць некаторых нашых чытачоў.

Poz. 19. Atlas polskich strojów ludowych. Cz. IV, Zeszyt 5: J. Świeży. Strój podlaski (nadbużański). Wrocław 1958. Cena wywoławcza 400 zł.

Poz. 142. Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Zeszyt 6: Małopolska — Ziemie ruskie. Wrocław 1960, C.w. 600 zł.

Poz. 195. Gloger 2. — Geografia historyczna ziem dawnej Polski. Kraków 1900, C.w. 1,4 tys. zł.

Poz. 228. Halecki O. — Ostatnie lata Świdrygiełły i sprawa wołyńska za Kazimierza Jagiellończyka. Kraków 1915. C.w. 800 zł.

Poz. 291. Karpowicz K. — Przyczynek do znajomości flory powiatu Nowogródzkiego. W-wa 1930, C.w. 240 zł.

Poz. 360. Kraszewski J.I. — Ostatni z Książąt Słuckich. T. 1—3, Wilno 1841, C.w. 3 tys. zł.

Poz. 390. Langrod J.S. — O autokefalji prawosławnej w Polsce. W-wa 1931, C.w. 400 zł.

Poz. 408. Likowski E. — Dzieje Kościoła Unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku... Cz. I/II. W-wa 1906, C.w. 2,4 tys. zł.

Poz. 412. Ludkiewicz Z. — Wytyczne reformy agrarnej na Białej Rusi. W-wa 1920, C.w. 160 zł.

Poz. 416. Kotocki A. — Autokefalja. Zasady autokefalji. W-wa 1932, C.w. 400 zł.

Poz. 476. Mościcki H. — Białystok. Zarys historyczny. B-stok 1933, C.w. 1,6 tys. zł.

Poz. 520. Ossendowski F.A. — Polesie. Poznań b.r.w., C.w. 6 tys. zł.

Poz. 658. Schummer-Szermentowski E.M. — Litwa. Lwów 1933, C.w. 100 zł.

Poz. 860. Zyzykin M. — Autokefalja i zasady jej zastosowania. W-wa 1931, C.w. 400 zł.

Poz. 1108. Rogalski L. — Dzieje Krzyżaków oraz ich stosunki z Polską, Litwą i Prusami... T. 1—2. W-wa 1946, C.w. 4 tys. zł.

У аўкцыёне можна таксама прыняць удзел пісьмова. Заказы трэба накіроўваць па адрасу: Antykwariat Naukowy, Al. Najśw. Marii Panny 27, 42-200 Częstochowa. У іх падаецца: нумар пазіцыі, прозвішча аўтара кніжкі, яе загаловак і найбольшая сума грошай, якую заказчык можа заплаціць за кнігу.

**П. Байко**

### НОВЫ ГАНДЛЁВЫ ПАВІЛЬЁН У ГАЙНАЎЦЫ

У лютым бягучага года на новым пасёлку „40-годдзя Народнай Польшчы" ў Гайнаўцы, дзе пражывае 3,5 тысяч чалавек, адкрылі вялікі прадуктовы павільён. Гэта другі такі павільён спулдзельні „Сполэм" у горадзе на ўскраіне Белавежскай пушчы, на вул. Рачная. Уведзена тут самаабслугоўванне.

У новай краме на дзве змены працуе дзевятнаццаць прадаўшчыц. Кіраўнічкай з'яўляецца Люба Чэкунова. (яц)

## РАБОТНІЦКАЯ ФАТАГРАФІЯ

Папулярны штотыднёвік „Палітыка" звяртаецца да ўсіх — і да беларусаў — з просьбай дасылаць яе рэдакцыі даўнія фатаграфіі, нават з часоў першых пасляваенных гадоў, якія датычаць жыцця і працы рабочых. Могуць імі быць здымкі са школы, таварыскія, шлюбныя, сямейныя, жалобныя, працоўныя і г.д. Партрэты, фота будынкаў, фабрык і варштатаў, сходаў і мітынгаў, паходаў і забастовак. — Без розніцы на палітычныя ці іншыя арыентацыі.

Асаблівая просьба — дакладна апісаць здымак, а менавіта падаць год (калі можна, дык дзень і месяц), хто або што на ёй, мясцовасць або месца, месца пражывання асобаў (наколькі магчымае, вядома), адкуль яны родам, дзе працавалі і якую займалі пасаду на рабоце, іх далейшы жыццёвы лёс, хто зрабіў здымак. У выпадку будынкаў важным быў бы па магчымасці дакладны вопіс яго тагачаснага стану, адрас, хто ім валодаў і якія людзі там працавалі.

„Палітыка" гарантуе, што кожны здымак, дасланы ёй, будзе звернуты з падзякай. З гэтых здымкаў прадбачана наладзіць выстаўку з узнагародамі, якія атрымаюць тыя, хто іх даслаў, знайшоў і даслаў. Узнагароды, якія запланаваны: семдзесят тысяч злотых як першая, дзве другія ўзнагароды па пяцьдзесят тысяч кожная, і тры трэція — па трыццаць. Будуць яшчэ і меншыя ўзнагароды.

Дадатковая просьба: патрэбны здымкі арыгінальныя, а не рэпрадукцыі (перафатаграфаваныя з фатаграфіі).

Дасылаць на адрас: „Polityka", 00-182 Warszawa, ul. Dübois 9 або на адрас: „Przekrój", 31-012 Kraków, Reformacka 3.

Тэрмін: да 31 сакавіка 1986.

## БУДЗЕ ВАДА З КРАНА

Трасцянка — адна з найбольшых вёсак у Нараўскай гміне Яе жыхары намераны пабудаваць водаправод. Вада паплыве з артэзіянскіх студняў мясцовага сельскагаспадарчага кааператыва.

У вёсцы арганізавалі грамадскі камітэт пабудовы водаправода. У мінулым годзе сабралі паўмільёна злотых добраахвотных складчын. Сёлета будзе ўжо 2 мільёны злотых. **(яц)**



**Выступаюць Валянціна Леўчук і Ніна Савіцкая.**

## СЕЛЬСКІ ДОМ ПЕНСІЯНЕРА

Дом пенсіянера на вёсцы гэта рэдкасць. А вось распачалася будова сельскага дома пенсіянера ў вёсцы Чараўкі ў гміне Юхновец — па ініцыятыве Ваяводскага саюза сялян, гурткоў і сельскагаспадарчых арганізацый.

У Чараўках адаптоўваецца і разбудоўваецца спомнены аб'ект на базе былога школьнага будынка. Будзе дабудаваны адзін паверх і разбудавана ніжняя частка дома. Будавацца будзе гэты дом грамадскімі грашыма. Уплачваюць на будову сяляне, установы, прадпрыемствы. Вось напрыклад, пенсіянеры выкупілі спецыяльных марак-цаглінак па 100 і 200 зл. на суму 142 тыс. зл. Спулдзельчыя банкі ўплацілі 304 тыс. зл., а Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў — 6 млн. 700 тыс. зл. Ветэрынарыя (раённая і ваяводская) — 325 тыс. зл., а члены сельскагаспадарчых гурткоў і гурткі вясковых гаспадынь выкупілі марак-цаглінак на 4 млн. 600 тыс. зл. Дагэтуляшні грамадскі грашовы ўклад з выканаўчымі грамадскімі пачынамі складае суму 17 млн. зл.

У доме пенсіянера ў Чараўках будзе 120 месц. Прадбачаны пакоі двухасабовыя і аднаасабовыя. Побач на 3-х гектарах будзе парк, у якім будуць расці таксама фруктовыя дрэвы.

Патранат над рэалізацыяй гэтай будовы выконвае грамадскі камітэт пабудовы, пры якім адкрыты банкаўскі рахунак № 805012-5441-189/99 w BGŻ Białystok, на якім збіраюцца грошы.

Гмінная рада нарадовая ў Юхноўцы пад старшынствам Зенона Ваявудскага, з мэтай падтрымкі гэтай высакароднай справы, перадала на вышэй пададзены рахунак 500 тыс. зл. і звяртаецца з гарачым заклікам да ўсіх рад нарадовых на Беласточчыне, каб аказалі фінансавую падтрымку для спомненай будовы. **(мх)**




## ТЫПОВЫ ЛЁС

Засядзеўся я ў Пракапчукоў у Паграбах. І, шчыра кажучы, не хацелася мне пакідаць іх гасцінную хату. А я ж задумаў наведаць яшчэ вёскі Рагачы, Мікулічы і Мядзвежыкі, дзе, па словах Дзмітрыя Макарава, таксама знаходзіліся саўдзельнікі ягонага партызанскага змагання з гітлераўскім акупантам.

Цётка Параска хацела аднак, каб я паслухаў яшчэ, як яе Міхася ўзялі ў Чырвоную Армію і як яны тады за яго хваляваліся. Было гэта пад канец ліпеня 1944 года, калі завяршалася магутная стратэгічная аперацыя „Баграціён", якая давяла да вызвалення Беларусі, а разам з тым і ўсёй паўднёва-ўсходняй Беласточчыны.

Ударам ад Гайнаўкі, цераз Белавежскую пушчу і пры падтрымцы партызан адзін з перадавых атрадаў Чырвонай Арміі ўклініўся ў варожы тыл аж пад Сямяцічы. Пад Брэстам у катле апынуліся значныя сілы праціўніка. Савецкае інфармацыйнае бюро 28 ліпеня 1944 года паведамляла, што:

„Войскі I Беларускага фронта акружылі ў раёне Брэста групіроўку нямецкіх войск сілай у тры дывізіі і прадаўжаюць змагацца за ліквідацыю гэтай групіроўкі".

На ратунак акружаным з раёна Сямяціч і Драгічына імкнуліся бронетанкавыя часці гітлераўцаў. Якраз у ваколіцы Кляшчэляў і Чаромхі яны перамяшаліся з паасобнымі атрадамі Чырвонай Арміі. Склалася проста такая неразбярыха, што ніхто не ведаў, дзе свае, а дзе ворагі. Некаторыя чырвонаармейскія часці паспелі адступіць, але іншыя звычайна загубіліся.

— Сядзелі мы ў сваёй клуні, — расказвае Параска Пракапчук. — Цэлай сям'ёю хаваліся там ад уцякаючых немцаў, якія, раз'юшаныя сваімі няўдачамі, спаганялі злосць на кожным, хто трапіў ім пад руку. Сядзім мы там ціхенька, духу не падаючы, каб нас, барані Божа, не прыкмецілі. Толькі я і Міхась узіраемся ў шчыліны між дошкамі дзвярэй. А тут на панадворку, бачу, паявіўся нейкі савецкі салдат, бадай афіцэр, бо з такімі жоўтымі бліскучымі пагонамі. Я не была ўпэўнена, што гэта савецкі афіцэр, бо я памятала, што чырвонаармейскія афіцэры ходзяць без пагонаў, а ў гэтага — пагоны на сонцы золатам зіхацяць. І грудзі цэлыя ў медалях. Штурхнула я ў бок свайго Міхася, каб паглядзеў, ці выпадкова гэта не нейкі пераапрануты немец, якіх мы баяліся найгорш.

— Гэта ж — наш, свой! — усклікнуў мой муж. — Палкоўнік Чырвонай Арміі!

— І ўжо бярэцца адчыняць клуню, — прадаўжала цётка Параска. — А я яго за руку трымаю і не дазваляю зашчапку адкінуць...

— Здурэла ты ці што?! — кажа мой муж. — Я ж столькі

# Зорка
## Старонка для дзяцей



П'еса „Навагодняя сустрэча" ў выкананні калектыву з Дубяжына.

## З КОНКУРСУ ТЭАТРАЛЬНЫХ КАЛЕКТЫВАЎ

23 лютага адбыўся цэнтральны агляд школьных тэатральных калектываў. Прыехалі дзеці са сваімі выхаваўцамі з шасці школ — чатыры калектывы з раёна Бельшчыны, адзін з Махнатага, з Гайнаўшчыны і адзін з Зуброў, з раёна Беластока.

У вельмі скромных сцэнічных умовах (конкурс адбыўся ў дзіцячым доме культуры), дзе не было нават сцэны з заслонай, а да сцэны не было ніякай магчымасці прычапіць нават плакату, дзецям удалося выказаць сваё ўменне захоўвацца на сцэне, даць гледачам нейкае ўяўленне аб сітуацыі, якую прадстаўляе п'еса. У пазычаным будынку цяжка было нават знайсці хоць бы звычайны стол — падстаўвую мэблю амаль для кожнага прадстаўлення.

Таму найлепшай падрыхтоўкай сцэны вызначылася школа ў Зубрах. Настаўніца Ніна Буднік была такой прадбачлівай, што дзеці прывезлі з сабою не толькі елкі з лесу, не толькі пянькі на балота, але цэлую сцяну вясковай хаты з поўным яе ўнутраным убраннем — вышыванымі ручнікамі і макаткамі. Калектыў з Зуброў паставіў беларускую народную казку „Як Іван чарцей перахітрыў". Казка аказалася вельмі складанай у пастаноўцы, бо дзеецца ўсё ў некалькіх месцах (лес, балота, хата, поле і г.д.), а ўмоў на змену дэкарацый не было ніякіх. Шмат уласных выдумак, рэжысёрскіх хітрык і цяжкой працы давялося ўкласці ў гэтую пастаноўку настаўніцы Ніне Буднік разам са сваімі выхаванкамі.

Іншыя школы ставілі свае пастаноўкі са значна скрамнейшай дэкарацыяй. Гэтага, зрэшты, патрабавалі і выбраныя п'есы. Калектывы з Дубяжына (рыхтавала настаўніца Леаніла Філіпчук) і з бельскай школы № 3 (рыхтавала метадык беларускай мовы Тамара Русачык) паставілі „Навагоднюю сустрэчу" з „Зоркі". Абодва калектывы вельмі старанна падрыхтавалі да гэтай пастаноўкі касцюмы. У дубяжынскім калектыве прыгожа выглядаў Новы год, а ў бельскіх дзяцей — Новы год і Гапцы.

Школа ў Махнатым прывезла п'еску „Бабуля прыехала", якую падрыхтавалі з калектывам настаўнікі Анна і Янка Міранюкі. У выкананні гэтага калектыву бабуля была як сапраўдная, хоць грае яе адзін з вышэйшых хлапчукоў.

Калектывы з Пашкоўшчыны (падрыхтаваў настаўнік Янка Добаш) і з Райска (настаўніца Людміла Паўлік) прывезлі дзве жартоўныя сцэнкі з рэпертуару для дарослых: школа з Пашкоўшчыны, пра хлапца, які надумаў жаніцца, а школа з Райска — сцэнічную фарсу „Міхалка".

Беручы пад увагу агульнае мастацкае ўражанне, а ў тым ліку падабраны рэпертуар, ігру дзяцей, іх дыкцыю і культуру на сцэне, журы прызнала першае месца школе ў Дубяжыне, тры другія месцы — школам у Зубрах, Бельску і Махнатым, і два трэція — школам у Пашкоўшчыне і Райску.

Узнагароду „Зоркі" атрымала школа ў Дубяжыне.

Яніна Чэрнякевіч
Фота аўтара



Казка „Як Іван чарцей перахітрыў" у пастаноўцы школьнага калектыву з Зуброў.

## Пішуць школьнікі

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА"!

*Я хачу Табе расказаць адну гісторыю.*

*Мая мама працуе ў шпіталі на Варшаўскай, медсястрой. У іх была салёва, якая працавала з маёй мамай. На Каляду яна ехала з гасцей са сваім малым унучкам. А тут выпадак! І смерць на месцы, не разам з унукам.*

*Але я не аб гэтым хацела расказаць.*

*Увесь медычны персанал быў ашаломлены гэтым здарэннем. Паехалі паведаміць яшчэ адну жанчыну, якая з ёю працавала. Паехалі карэткай, а працаўнік „пагатовя" быў у белым адзенні і з таго выйшла бяда. У той жанчыны быў звычайны сабачка. Той сабачка, як убачыў чалавека ў белым, вельмі спалохаўся, пачаў выць і яго ніяк не маглі супакоіць. А раніцай сабачку пачало вельмі кідаць, трэсці, наступіла эпілепсія.*

*Паехалі з ім да доктара. Доктар спытаў:*

*— Ці не было ў сабакі нейкіх нервовых перажыванняў?*

*Тут гаспадыня сабакі прыпомніла, што год назад памёр яе муж, да якога сабака быў вельмі прывязаны. Муж памёр ад рака, і такім жа „пагатовем" прыязджалі рабіць яму ўколы, бо яго мучылі нясцерпныя болі. І сабака ўсё прыпомніў, калі ўбачыў машыну і чалавека ў белым, і спалохаўся. Тады доктар кажа:*

*— Цяпер я ведаю, з чаго пачаць лячэнне.*

(Працяг на стар. 10)

Д. Сулайманаў

### ЗАЙЧАНЯТКА

Гэта гісторыя здарылася ў суровую і галодную ваенную зіму. Я быў хлапчуком, але ўжо старэйшым мужчынам у сям'і. Бацька ваяваў, і ўсе нялёгкія мужчынскія клопаты дзялілі мы з мамай.

Неяк, распальваючы ў печы, яна сказала:

— Учора, кажуць, Алесь са сваім сабакам зайца прынёс.

Мой малодшы брат Жоржык даўно хварэў. Я падумаў: гарачая заечына лепш за ўсялякае лякарства паставіць яго на ногі. А яшчэ падумаў: чым я горшы за Алеся? І сабака мой, Амбар, не горшы. І ногі ў яго зусім як у ганчака.

Узяў валёнкі, запхаў у іх саломы, каб цяплей было, надзеў старую бацькаву ватоўку, моцна падвязаўся вяроўкай.

— Куды гэта ты сабраўся? — спытала маці.

— На зайца.

— Як ты пойдзеш у дзіравых валёнках? Замерзнеш, сынку.

— Я хутка, — паабяцаў я.

— Жэнька абавязкова зловіць зайца, — цешыўся брацік.

На двары я паклікаў Амбара. Змерзлы сабака лянiва памахаў хвастом, неахвотна падышоў да мяне. Я ўзяў вяроўку, прывязаў да ашыйніка сабакі, а другі канец — да свайго пояса. Так і ру-

(Працяг на стар. 10)

## ФАЛЬКЛОР

### НЭ РЫЗЖ МЭНЭ...
(балада)




Тяжко-важко мніе на сэрцы, як вэчур подходіт,
бо мой мілы чорнобрывы до другой ходіт.*)
Нэхай ходіт, нэхай ходіт, бо вон еі любіт,
вон за ею молодэю дружыною служыт.
Молодэю дружыною — віерною слугою.
— Зарэж, зарэж жуонку свою — буду жыть з тобою.

Прышоў мілы додомоньку, стаў ножа острыті,
а мілая догадліва начала просіті:
— Нэ рызж мэнэ, мой міленькі, хоч одну годіну,
то я тобіе пудгодую малую дітіну...
— Тогды будэш, моя міла, дітя годоваті,
як я пуойду до Дуная ножа полоскаті.
Пуойшоў мілы до Дуная ножа полоскаті,
а суседі, добры люде, далі маті знаті:
— Кідай, маті, жыто жаті, кідай дожынаті —
іді дочку-одіночку на смэрть наражаті.
Прышла маті, потіхеньку стала пуод оконком —
лежыт дочка-одіночка до сонця лічэньком.
А дітіна, як пташына, коло еі в'етсе,
а міленькі на луожэчку лежыт і сміеєття:
— О то тобіе, моя міла, діеті годоваті,
як я пуойду до Дуная ножа полоскаті.

*) Парныя радкі паўтараюцца.

**Ад Марыі Байгус, год 40, родам з в. Крывяцічы гм. Орля, і Анны Пісанка, год 40, родам з в. Краснае Сяло гм. Боцькі, абедзве спявачкі больш за 20 год жывуць у г. Беластоку, запісаў 17 кастрычніка 1985 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.**

**З чаго смяюцца суседзі.**




## НІУКА

### ДРЭННЫЯ СЛОВЫ

Сястрычка скардзіцца бацьку на брацічка:

— Татка, а ён гаварыў дрэнныя словы.

— Што-о?! Я яму пагавару. Ану, кажы, Юрка, якія словы ты гаварыў?

— Ага, якія... Такія, як вы гаворыце, калі з мамаю сварыцеся, — усхліпнуў малы.

### КАЛІ ПАРАЎНАЦЬ

— Ты ведаеш, што мая жонка кажа? Дай мне волю, кажа, то б я ўсіх п'яніц прымусіла блёкат есці.

— Э-э-э, што твая! Вось мая выхваляецца. Кажа, калі б мая воля, то сабрала б усіх алкаголікаў, напаіла б да пасінення, а пахмяліцца на другі дзень не дала б.

— Ну і садыстка ж твая жонка! Вось такое прыдумаць! Дык мая проці тваёй — анёл!



### УСМЕШКІ ФІЛОСАФАЎ

Даведаўшыся, што філосаф Анаксагор памірае з голаду, яго вучань — вялікі дзяржаўны дзеяч Перыкл паслаў яму грошы.

— Аднясіце грошы назад, — сказаў філосаф. — Калі б ён хацеў, каб свяцільня не згасла, патрэбна было запоўніць яе маслам загадзя.

### ВОСЬ ДЫК ЗВЕР!

— Адгадайце, хлопцы, загадку.
— Давай!
— Адно вока, адно вуха і адзін рог, — што гэта за звер?
Усе думалі, гадалі, ніхто не ведае.
— Вось то і яно... карова гэта будзе.
— Як карова? Чаму карова?
— А яна з-за вугла хаты выглядае?



**На допыце ў следчага прадаўшчык дакладна ўзважваў кожнае слова.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Я рады, што вы адкрыты чалавек, пан Морыс, — кажа кіраўнік установы новаму работніку. — Што ў вас на сэрцы, тое і на языку. А зараз скажыце: чаму вы звольніліся з папярэдняга месца работы?

— Ды ўсё з-за таго, што меў на языку тое, што на сэрцы...

*

Шатландзец, у якога захварэла жонка, ідзе ў пахавальнае бюро. Па дарозе яму сустрэўся прыяцель і пачаў раіць, каб той спачатку звярнуўся да доктара.

— Навошта? — здзіўляецца шатландзец. — Я не збіраюся плаціць ніякім пасрэднікам.

*

На судовым працэсе аб устанаўленні бацькоўства адвакат пытаецца:

— Ці паказаў аналіз наяўнасць у крыві алкаголю?
— Не.
— У такім разе мой кліент не можа быць бацькам, бо ён ужо год як не быў цвярозым.

### МІНІВЕРШЫ

Нямала гора той пазнае,
Хто з гэтай краляй
павядзецца:
Яна і грошы вытрасае,
І моцна за душу бярэцца.

**Язэп Кудзеля**

### З „Весніка Задрыпоніі"

### АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

Калі вядомага вучонага С. Чупрыновіча спыталі, што ён думае аб магчымасцях зваротнага пераўтварэння чалавека ў малпу, той, не задумоўваючыся, адказаў: „Калі б людзі зноў сталі малпамі, ім бы ўжо не хапіла дрэваў".

### ПРАВІЛА МАЙСТРА ДУБОВІЧА

Будзь справядлівы, не трымай зла на пакрыўджанага табою падначаленага.





**Гурман.**



## Курʼёзы

### НАВУЧЫЎ

За плячыма Б. Уелча былі забойствы і рабункі, а перад ім — доўгія гады турэмнай адседкі: нястомная дзейнасць на ніве злачыннасці прынесла яму агулам 143 гады зняволення.

Натхнёная духам практычнасці, адміністрацыя турмы г. Чыкага, дзе знаходзіўся той непапраўны злачынец, прыкінула, што шкада, каб такі багаты вопыт ды й прападаў марна, і зрабіла Уелча... кансультантам: на яго было ўскладзена заданне навучыць турэмшчыкаў — устанавіць магчымасці для ўцёкаў вязняў.

Апраўдваючы спадзяванні знатакоў яго веда, Б. Уелч не замарудзіўся паказаць ім, што такія магчымасці і сапраўды ёсць: прыхапіўшы — ці то дзеля кампаніі, ці для большай пераконлівасці — яшчэ аднаго вязня, ён спусціўся з шостага паверха па прывязаным да акна прывадзе і ўцёк.

Турэмная адміністрацыя паміма сваёй волі пазбылася цэннага спецыяліста. Затое, улічыўшы практычную параду Уелча, зрабіла на вокнах моцныя краты.




**Чым больш вады ў прамовах, тым маруднейшая плынь думкі.**